Віктар Сямашка

# ГАБІТАЦЫЯ

Тры вершаваныя цыклі:
“Габітацыя”,
“Дафарэнцыя”,
“Гзымс”

Мінск
“Галіяфы”
2013



УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)
С30

**Сямашка, В.**

С30 Габітацыя: Тры вершаваныя цыклі: “Габітацыя”, “Дафарэнцыя”, “Гзымс” / Віктар Сямашка. — Мінск: Галіяфы, 2013. — 96 с.

ISBN 978-985-7021-09-3.

У кнізе Віктара Сямашкі сабраныя ўсе вершы, створаныя паэтам у пэрыяд з кастрычніка 2006 г. да траўня 2008 г. Габітацыя — назва беларускай вёскі, якая знаходзіцца ля Будслава. У перакладзе з лацінскае habitatio значыць “пражываньне, жытло”. У прадстаўленых тэкстах аўтар апісвае рознабаковыя стасункі з рэчаіснасцю і робіць тое без лішніх фантазій, але з наданнем сакральнага зместу кожнай дэталі.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7021-09-3**

# ГАБІТАЦЫЯ

(кастрычнік ‘2006 — люты ‘2007)



## КАЛЫХАНКА (І)

усплываюць тлустыя зоры
верцяць бакамі
                    лалава-срэбнымі
асобныя перасоўваюцца мітусьліва

мандарынавая долька
за лесам
            таемна
поўніцца сокам,
воблака — малаком

плады
         пад ногі
                    валам
чутны плёскат між
чырвоных прожылкаў

ліхтароў шыхты ў нябёсах тонуць
вагеньчыкі хатаў усьлед
                              зьнікаюць
па-над полем
                   сьцелюцца сны-навародкі

## НАСУСТРАЧ

па сьлізготкіх мроях —
*крок-крук-крык* –
звар’яцелы прапаведнік
ці то ашалелы падлетак

вадой працякаю ўвесь
пакідаю вільготныя адбіткі

дыхаць імкнуся
ды паветра казыча лёгкія

нельга болей чакаць
твайго зруху насустрач

## ФРАГМЭНТЫ

салодкі подых лістапада
мэгаполісы могілак,
          заўжды сьцюдзёнейшыя за...
...мшэлыя вокны
          тралейбуса:

пласты зямлі, травы латкі,
шэрані покрыва, дарог ручнікі –
          квадраты, стужкі
          аплікацыі позіркаў, словаў

паралельныя фрагмэнты
          ў паветры

## ГАСПАДЫНЯ

цяпер мне ня трэба
ні малака, ні кіпню
толькі прыгажосьць —
чуць, бачыць, кранаць

белае зь цябе
белае скрозь гарбату вачэй
скрозь густы й чорны пух валасоў
белае
ўздоўж веек
між вуснамі
з твару
з далоняў

я бы голуб
бы рыба
бы раб
ля ступняў тваіх,
гаспадыня

## АДЗІНАЕ

жыцьцё пужлівае
хлусіць ды баіцца
само сябе зьневажае
самому сабе не належыць

Бог дае й забірае
нават у самагубцаў

хто з нас дваіх Каін?
..................................

што ні чалавек, то сымбаль
ты стала мне
                знакам веры
ня болей за тое
..........................

Божа, ці гэта мой шлях?
накіруй мяне, Пане
накіруй невідушчага
          злачынца
дай зразумець мне кволаму
          абмежаванаму вар’яту
          Тваю волю...

*“нічога не прасі*
*не прасі ў людзей*
*не прасі ў Бога*
*ніколі нічога*
*не прасі*

*і будзе табе дадзена*

*не сьпяшайся!*

*адвярніся ад натоўпу*

*маўчы!*
*толькі так пачуеш праўду”*

я еду ў замеценыя пагоркі
на схаванае поле
да зьмерзлае крыніцы
на прычасьце й споведзь

боль выступае сьлязьмі
ціхі маўклівы боль
адчыняе праўду,
чутную на ўвесь сьвет...
.........................................

Божа, дзякую Табе за права
сустракаць чарговы дзень,
навучацца й трымаць іспыты

Божа, прабач Свайго дурня,
што прасіў яшчэ й яшчэ
нагрузіць яго працай,
а потым ня здолеў
падняцца з каленяў

Божа, я бачу працягласьць рэчаў у вечнасьць,
і прызнаю, што нічога ня маю,
толькі часова карыстаюся

няма сэнсу
заставацца ў чалавечай памяці

абыякава,
дзе жыць і кім працаваць

Ты паўсюль
і, спадзяюся, са мною

Ты — маё адзінае суцяшэньне,
            мая радасьць, мой хлеб

Адзіная Вера й
Адзіная Любоў

# ДЫК

дыктатар —
хакею аматар,
азадкаў лапар

дыктатар-кастрат
дыктуе трактат
пра трактар

ну, дык, што, дыктатар —
народ, які ўчора быў за,
сёньня дае тату дыхту?

калі мы разам,
адзін з нас — ты,
дзірагент і правадзірак

## ЕЦІ

жанчыны ўзімку халодныя —
скідваюць званкі

мне б такое цярпеньне,
каб сваё звонку
й знутры

сыплецца
то лісьце,
то
плаўкі зімовы пясок
кроў грукае ў вісок

сьнежны чалавек
зайшоў у аўтобус,
растаў і стаў звычайным
вузлом мазгоў ды кішак

Новы год,
ты пачасьціў...

Менск у рознакаляровых зьнічках,
як гатычная бажніца

гакам уласнасьці падчэплены
цэпам думак
абдымкамі адлюстраваньня
сьценем да зямлі —
не пайсьці, не узьляцець

траўкі ды лісточкі
ў сьнезе й пад
і на
і скрозь, навокал
унутры й звонку
мне б такое цярпеньне...



няма моцы думаць
няма чаго сказаць

ніхто не параіць
у сьне сустрэць
ворлікаў

## АБАGOOGLE

краіна без навінаў
краіна заўзятых спажыўцоў
і прыстасаванцаў

табе патрэбны стасункі й гутаркі,
каб спыніць унутраны дыялёг:
толькі ня ціша!
толькі не заставацца сам на сам!
                не асабістае,
                не асобаснае,
                а выключна агульнае,
                гульліва абагульненае

# ПАВОДЛЕ СНОЎ

Я ніяк ня мог вырашыцца, а Ён штурхануў мяне ў вогнішча: “Божа, даруй, але не магу!...” За тым маўкліва назірала маці й брат яшчэ малы. У мяне адвалілася рука, брат падняў яе ды паклаў у полымя. Я кінуўся ратаваць — узгарэлася ўся, як палена: “Не!!! Не!..” Потым яшчэ нейкая канечнасьць адвалілася. А ў наступным сьне я даў кулаком у твар былому сябру.

* * * * *

Мая місія час ад часу зьяўляцца ў розных мейсцах, зьвязаных зь Яго зямным жыцьцём — пераважна ў пустэльнях ці стэпах. Вакол заўсёды шмат людзей. Набліжаецца коньніца, на чале якой вершнік у выглядзе шкілета з каронай. Ён коле мяне. (У першы раз было асабліва балюча, потым амаль незаўважна.) Праз гэта я пераходжу ў іншы стан. Быццам бы паміраю. І пачынаю казаць… ці то чытаючы з манускрыпта, ці то адвольна…

## ЗАХЛЫН

імбрык паставіў —
і скончыўся

той сьвішча ў захлын,
а зьняць няма каму

## КАЛЫХАНКА (II)

котка
чуе носам
бачыць вушкамі
вочкамі сьвеціць

анёл-ахоўнік
зь лёну лютага
сны снуе
каляровыя

гальлё
міргае
табе
лямпадаю

## АЎТАСПЫН

Чым больш набліжаешся да Яго,
чым больш намагаешся Яго разумець,
тым больш адчуваеш
уласную нямогласьць,
слабасьць, старасьць,
нетрываласьць,
няздатнасьць

час прыпыніцца

мне не хапае моцы,
каб служыць Табе, Пане

час прыпыніцца

выходжу з касьцёлу,
як апошняя гніда

каб рушыць далей

## ТУМАН І ПОЎНЯ

пан Туман і пані Поўня
распускалі вільгаць,
   абмывалі анучы лістоты
   антыкварна-партфэльнага колеру

пан Туман і Пані Поўня
танчылі мазурак
   *зоркі сыпаліся*
   *жабраку за каўнер,*
   *а той не зважаў –*
   *лізаў люстэрка,*
   *кадычыў  з бутэлькі*
   *талую…*

пан Туман і пані Поўня
выбелілі ноч каханьнем:
   пан на голых камлёх,
   а пані зьверху —
   то зьявіцца, то зьнікне
   то зьявіцца, то зьнікне

пара на шкле асядае,
ужо ранкам
на шляху да працы
ў тралейбусе
   будзем здымаць
   тую вільгаць
   тварным бокам
   прыдалоньня

## БРУД

праз скуру бруд
зь цела бруд
і не становіцца
чысьцей унутры

## ДЗЬВЕРЫ

такою цёплаю зімою
ты пачынаеш сам цьвісьці,
але з настою дух
перастае паволі...

жыдоўка перастае...

што плыло ад каханьня,
ад жальбы крэпне

тваё сьвятло стала балючым —
да сьлёз дзярэ

зь пяці ўсталяваных дзьвярэй –
толькі адныя адчыненыя,
паспрабуй здагадайся!

## в. ЧЭРЦЫ

з камлёў вада
спакваля
плынямі

так і ты зышла
з абраза
на зямлю,

мая вера строгая
мая вера цнатлівая
мая вера раўнівая
маёй веры тапталі рукі
маёй веры я — спакусьнік
мая вера — рака без вагі
мая вера з замерзлымі ірысамі
мая вера ня мае літасьці
маю веру атруцілі развагі
мая вера з вачамі-Поўнямі
мая вера сядзіць у клетцы
мая вера зь вёскі Чэрцы



ночперакуліла яву —
сонечная й марозьлівая раніца
бадзёры вецер паглынае гукі,
прыбірае вуліцы
зьнішчае пустое —
                                        пакеты, газэты —
скончыўся час ваш
                                        зараз і тут
Народзіны Пана

## ДВУХКАЛЯРОВАЯ

як зіма
ты двухкаляровая
ёкнула сэрца
абліваецца варам,
бачачы
            пекнаты патоп:

сьнежная скура пад коўдрай з голых галінак
спадніца зь вецьця — ночы сеціва
зоры ў валасох
                        і зямлі бляск у вачох
                                                бязьмежных
усьмешка зь ямкамі
фігура з застылае пены
шырокія сьцёгны
                        абвальваюцца вагальна
рукі гарачыя — крылы
                                і шыя сусьветнае птушкі
грудзі наліўныя...

стаю скаваны, зьнямелы перад табою
зь ірысам тугі ў руцэ

## НЯМАЯ МАЛІТВА. ЦЁПЛАЯ ЗІМА

працягваю жыць —

  пераціраць цярпеньнем і працай
  мароку

вецер прадзімае наскрозь,
бо не зважае

перамяшчаюся ў прасторы
знаёмлюся,
памнажаючы на нуль у галаве,
лісточкі — вагеньчыкі сьвечак —
услалі белае сочыва

мэсія зь месіва
пасіўная пасія
Пэрсія — Залесьсе

водар руж і спэцыяў
пачынаем са сьвята ежы
рухаем межы зносінаў
дулі гуль з носа

зьнесены званком сон —
едзем! das seine

за 26 год
колькі усяго зьедзена
й перадумана
наежджана, назапашана

не атрымаецца, як чарвяка
абмежаваць
і умяць у грунт

Ты хацеў бы, каб замест нямой малітвы
я думаў пра кабету
каб траціў на яе ўсю моц і нэрвы, грошы
каб спусташаўся, ня маючы адказу, згасаў
татальна бязьдзейнічаў —
дарма на тое спадзяесься

так, каханьне ня вызваліць мяне ад юрлівасьці,
але з гэтае пасткі ёсьць скразное выйсьце…

мазгі ў сіняках
пякуць
сэрца — у дзіравай кішэні
чорнага паліто
заліты з ног да галавы
вадой ды крывёю
адзін у полі
цешуся
зь цёплае зімы
працягваю жыць

## ПАСЕЎ АЗІМЫХ У ЛАГОЙСКІМ РАЁНЕ

палоска кругавіду
налыгала лясы ды хаціны
шляхі цераз сябе перакінула
схавала
ветах.

ідзеш бы ляціш
уздоўж Сьліжанкі
ад Янушкавічаў да Саўдзеневічаў
ад крамы да могілак

з вышкі бачылі
    жытнія лапікі
    пункціры дарог
    усе твае
    яры ды горы,
рызьзё й неруш, мілая Лагойшчына...

падхапіла мяне сваёй чабаровай далоньню
злучыла сасуды з дубамі,
    што растуць скрозь сябе
правяла па вадзе,
    што стаіць на заваротах
    і звонка шчабеча на спадах
    хаваецца на сховішчах

надзвычайная
слота на Вадохрышча
лепей маліцца па кутках
зь Ім сам на сам

ніякай публічнасьці й абаранкаў
карміся Сьвятым Духам, бяззубы
для кожнага ўзросту — свае ежа
свой дастатак

калі ізноў стане навакольле зялёным і яркім,
зіхоткім і глыбокім,
электрычным,
як у коткі
вочныя яблыкі
вонкавыя спалохі,
ці знойдземся мы,
каб зьдзейсьніць заплянаванае
назаўжды й ніколі
самавітыя й несамотныя?

дакладна, мы з табой ужо ня станем горай

чытай начны макіяж путан-вуліц,
бінты й лябірынты хлусьлівых мастоў
і кальцавых
чытай па сьпіралях
па крумкачах над дахамі
па лічбах у мабільным
чытай цела Марыі і Ветах леваруч,
што засявае зямлю
азімымі зорамі

## НІГМ

Мы, еблаусры — ярміны юдзлі,
Срацэм ааддыня дронай ялізм,
Шрачы ябсерум, лысі таргуем
Мы ў рвацітапай, льновай ясым.

Ссаўля, лямзі шайна веласет ямі,
Ссаўля, даўнора рабітрэск засю!
Ашна ябімалю ціма-мадзіра,
Енчва віжы і вейткні, Ебласьру!

Мараз з марбіта умнаж ваякім
Мы білірана ордын агроп,
У хватбі за лвою, хватбі за олюд
Войс быдлавіза гясц армегоп!

Брудаж дароўна — салі дароўна –
Шна пантазевы, сныеноч хляш.
Рогад ж іязвус ў сыняя сівы,
Гясц жопамерны — дасраці гясц!

## БОЛЕЙ

Мае сьлёзы —
пялёсткі пад твае крокі

твой пот
пунсовыя шчокі
завіткі на скронях —
толькі мроі

разумею, таму няма, на што крыўдзіцца
няма, на што скардзіцца
абурацца

вось і ты
сьмяесься мне ў твар

мы адзін аднаму — спакуса
бачыць ці ня бачыць цябе —
як пакутлівей?



паветра вочы лашчыць
як прыгажосьць, адразу не заўважаная:

вайскоўцы, спартоўцы, міліцыянты, кантралёры,
мэдыкі, сэк’юрыцы, акторы, гандляры, мытнікі —
я люблю вас



прыемная лёгкасьць у страўніку
такі ж пусты трамвай
прастора,
адчыненая для вандровак

## ВІД ЗНУТРЫ. 08–03

— Памагае ці перашкаджае жанчына ў служэньні?
— Можа дапамагчы, але магчыма абысьціся й безь яе.
— Ці мацнейшы той, хто абыходзіцца без жанчыны?
— Не. Проста яму меней пашанцавала.
Ён павінен прайсьці праз большыя выпрабаванні.

Жыць дзеля кабеты,
каб яе задаволіць —
ня дзеля таго народжаны

быць шчасьлівым у каханьні,
дабрабыт і працяг роду —
ня ў тым сэнс

толькі усхваленьне Пана,
толькі служэньне,
самотнае ці публічнае

толькі празрыстасьць,
каб больш Сонца магло прабіцца

маўклівасьць зь цярпеньнем
і стрыманасьць без завіханьня



стома й слота

сузіраць цябе аднолькава салодка й горка
што мы можам сказаць адно аднаму,
акром “вітаю!”?
пры гэтым, ты ніколі не адорыш мяне поглядам,
нібыта я — прывід
толькі знайду раўнавагу, пагаджуся
зь лёсам самотніка —
спатыкаю цябе нечакана ў мэтро, на канцэрце,
памятаеш?

ня ведаю, пра што размаўляць з табой,
акром як пра жаданьне быць разам
астатнія словы — бязглузьдзіца,
але цябе напружыць гэта,
ты заблякаваная ад такіх размоваў, мая

тэма й мэта

## З ПРАВАДНІЦАЙ

адкуль зьявілася гарбата ў шклянцы?
куды яна зьнікне?
      якая адлегласьць
      між паўнатой і пустэчай?

пазыч вольных дзён
не пераводзь стрэлкі
не заставайся — сыходзь
гавары моўчкі сьпі

рэж хлеб
                        вільготны,
як пасьцель у цягніках
на Ўсход
голы зьбірайся —
голы гатоў
бязь лішніх прэзэнтацыяў
гарбата ў шклянцы
                                        ізноў

* * * * *

бірузовыя станцыі запар — ад Масквы да Смольні
сьцюжа з рук праваднiцы
вугаль астылы з-пад сіняй спадніцы
сыходжу ў Менску,
заўтра ізноў на цягнік

кожны раз
так, штораз —

новае мейсца
й новы час
бадзяюся па Сусьвеце,
як полы камень
чым тут асаблівей?
чаму ня як там?

* * * * *

Вось увесь, як ёсьць
вясёлы Київ:
стромыя вулкі,
ламаныя дахі
жаночае й чалавечае…

боршч з вуглем

* * * * *

вечар сьціснуты й кіслы –
то з-за грубай машыністкі

цягнік зь цягніка стрымгалоў
па супрацьлеглых шляхох

## МУРАШНІК

гладзь мэтро
плынь неба
зіму сустракаем з бадзёрасьцю
ад лета нішто не ўратуе

галава-мурашнік
сон трашчыць дрэвам
Пане, пазбаў ад пошасьці
нас, зьняволеных выбарамі



твой вобраз
пачынае чытацца —

        рухі, абрысы
разам зь імгненнымі фарбамі
й няўлоўнымі пахамі ў такт

ты йдзеш са мной поруч
мы прачынаемся
ў нашым ложку

твая пяшчота перапаўняе сусьвет,

тваё чыстае цёплае зьзяньне

# РАКІ

на ўсё жыцьцё —
ня значыць надоўга
пагадзіся,
Ізя

як узьляталі з табой
са стромага пагорку
й скакалі
кілямэтровымі скокамі
ў бок Лагойску,

так да лёгасу
да жаданьня выцадзіць мудрасьць
імкнецца розум
зь любое падзеі й пэрсоны
з чароднага сну — нейкі сэнс
выносіць назапашваць складваць
пакуль ня стане мозг
урачыста чыстым,
як труба piccolo
як арган гудзеў
лесам трубак
дзьмухаў магутнымі лёгкімі,
выпрацоўваючы незямное

вось і ракі зьбіраюцца ў касьцёл
па двух брукаваных дарожках
між корчмаў ды хатаў —
працэсія

белым іскрыцца лебедзь
і авечка на ланцугу ведае —
супакой патрабуе высілкаў

## ТАКІЯ ВЫНІКІ

імкнучыся да прыгажосьці,
губляю зубы

на руцэ ізноў вырас гузак-гадзіньнік
замшэлыя акуляры на твары

углядаўся ў Сонца,
каб усьвядоміць сьвятло,
ды асьлеп —

такія вынікі
прызвычаіўся падпісваць
сабе выракі

# МІХЕЙ

Спадар Міхей
прапанаваў прывабны выхад:
праз гаўбец на восьмым паверсе

ён ужо там,
а мы тут па-ранейшаму

але нам ніхто нічога ня зробіць,
жыцьцё можа адняць толькі Бог

брат гіне за брата
за кожнага брата свайго

хто цяпер не застрахаваны ад таго,
каб не паўтарыць ягоны прыклад?

* * * * *

той памёр, гэты...
яшчэ адзін сьмяротна захварэў —
так, здаецца, паступова зьнікае сьвет
вось і абрыкос сьпілавалі ля ганку

## АДНО

сьвятое не адсекчы,
сьвятыя нашыя стасункі
мае з табою
твае са мной

мы ў іх вечныя
мы ў іх поўныя
мы ўдвох –
адное й тое ж

## NON-STOP

кісель у галовах
малочнае жэле целаў

запалка разгараецца
ўніз галавой

таполя густа
асемяняе паветра

доўгія ўздыхі
машын на вуліцы

зорак пух
похваў пах

кабетава пара
у нон-стопе кавы

## СОК ЗЯМЛІ

сьліна густа капае з дрэваў
наконадні
            заравога сочыва

на мёд захаду
наліпаюць гукі:
                цыкады ў кветкавай пільсьці
                жужалі з лубінамі
                псы ў вёсцы
                руплівыя мэханізмы
салавей змоўк апошнім —

ноч касьмічна шырокая
адмяніла час
і любыя рухі

толькі сьвежасьць
лапікі араматаў
язьміна, мяты

ноч не патрабуе сну
й ужо цямней ня стане
не пытае імя
й па бацьку

толькі дзень
сок зямлі смокча
і ўсякі тут стане полымем,
калі не трухля



дзяды баяцца скразьнякоў
імхом сваім
канапацяць шчыліны,
сівізной з патыліцы
затыкаюць адтуліны



завулак на вузел жаночы завязаны
нямыя алькагалічкі крычаць немаўлятамі
у кватэры седзячы,
абіраеш між
духатой ды гоманам
……………………………………………

у хаце сьпёка,
ды чуваць,
як кран у ракавіну плача,
тынкоўка асыпаецца сэзонна
што за нястача?!

## ХОВАНКІ

зорнае неба хаваецца пад травой,
каб узысьці ў час
        Поўня занырнула ў студню
        Вечарніца паблізу ў стаўку —
перашэптваюцца пляскам,
каб лашчыцца бляскам

## КЛОПАТ

кроплі зары ў лесе
на папарацях
пад вываратнем

адчуваю твой пах і клопат,
родная
нават тут

## ПАСЬЛЯ ДАЖДЖУ

Пасьля дажджу
нябачнае бачна

лісьця ляск
яра бульк

На чыстым паветры
нясмачнае смачна

кветак брага
ценяў цяга

На чыстым паветры
Пасьля дажджу

## ШНАРЫ

ад сьпёкі набрынялі спадарыні —
ня ўлазяць ва ўласную вопратку,
апэндыцытнымі шрамамі
спадзяюцца
прывабіць увагу

## СІТАЎКА

Сітаўка — няспынны спадарожнік
ляціць над дарогай нізка й хвалiста
азіраецца й чакае
потым цвыркае на разьвітаньне

малако вязуць
на вазах ды ровэрах
поўныя самазвалы тварагу
цыстэрны сьмятаны —
найвыдатнейша!

дзяўчыны мнуцца, трасуцца й круцяцца, ідучы
няспынна гавораць
вочы як пражэктары
адсочваюць вонкавыя погляды
 кроплі грудзей па рэбрах сьцякаюць долу
 зьбіраюцца ў груды й горы
 разбураюцца ад вяршыні
 потым ізноў…



у галаве — табу
у сэрцы — табун
рытмізуе цела
сьлепні й камары
паддаюць джазу
кроў у хаосе,
у паніцы

у любой лужыне —
свае лебедзь і пэлікан
вецер мяшае дзяжу
целаў цеста
запякаецца
ў формах вуліцаў

у прахалодзе гарадзкога пограбу
мітусяцца электрацыі

## р. СЬЛІЖАНКА

Сьліжанка кружыць галаву
грае ценямі на дрэвах
ліжа
          ласкава й бессаромна
абгортвае ў водарасьці

па вяртаньні дадому
абдае дожджыкам
мочыць колы ровару
ды акуляры

## ПРЫЕМНА

табе прыемна ведаць аднаму
тое, што хацелі б ведаць шматлікія,
і маўчаць доўгі час
на гэты конт

табе прыемна
лічыць сябе лепшым за усіх,
а дакладней бачыць усіх
горшымі за сябе



каханьне працуе
па-ранейшаму безадказна
ніхто не абяцаў узаемнасьці

малюся
ў ваньне
па шыечку

гады даюць трываласьць і
выносьлівасьць

між сном і бадзёрасьцю
губляецца розьніца

дзень пачынаецца з “добрае раніцы”
зь першымі птушкамі крочым на працу:
*нам заўсягды сьпякотна да поту*
*сёньня — працуй, спачын будзе потым*

гляджу ў ваду
гляджу ў полымя

першае — сівое
другое — надзённае

быццам паміж распаленых стрыжняў
па-за ўяўнай спакойнасьцю

## НА ВЯЛІКІ ПОСТ

Абразы пазіраюць з абразай
Адгукаюцца крокі ў карку

Мірыям пакідае горыч
Мірыям зьнішчае гонар

Поўня поіць
Малаком апоўначы

У цемры ня бачна бруду
Толькі ксёндз з клярнэтам

*Ці адчуваў ты сябе калі-небудзь болей спустошаным, чым зараз? Ці адчуваў першародны суіцыдальны інстынкт? Ты хочаш ціхага самотнага жыцьця, хочаш спаць і есьці, і пісаць штосьці кшталту гэтага. Але не выпадае. Усе твае уяўленьні й перакананьні сталіся прыдумкаю. Выпрацаваныя табой законы й мэтады не спрацоўваюць. Дарэмна штосьці прагназаваць. Ты не разумееш, як успрымаць сваё існаваньне. Толькі словы. Толькі размытыя фарбы… А як прыемна шкадаваць сябе! Пазьбягаць любое напругі! Колькі вакол задавальненьняў! Колькі цікавых заняткаў, паездак, сустрэчаў!..*

«Памятай, ты прах і прахам станеш»

## ПАСАЖЫРЫ

ва ўлоньні бусу
пасажыры зь віскам
мяняюцца сядзеньнямі

дзе кантралёры?! дзе кандуктары?!
                                        дзе кампостэры?!

я трымаю куліч

## ЧОРНАЯ СТРОНГА

Месяц устае
з-за жоўтых бярэзін, малых арабін
займае
звыклае мейсца
над полем

прасунуў у хатку нашу
промень
з вакна ў вакно

яблыні,
быццам елкі калядныя
ўжо не гараць
толькі звонку так звонка
цыкадамі
зорка зорку пільнуе
ліхтар за ліхтар

чорнай стронгаю ноч
заглынула абшар
ахінула сьляпою
празрыстасьцю



дрэвы ў дровы
дроў шкілеты

па-над імі…

Поўня з хатай
на гайдалцы

…імбрык сасьпеў



зямля яшчэ пахне чаборам
галіны здольныя зьняць пот,
а травы гладзяць пяты

прыціскаюся да цябе, зямля,
не адпускай!..
……………………………………

заходняе Сонца
рве на кавалкі аблокі
вугольлем гарыць скрозь гальлё
воскам шаруе яблыкі

## КАЗУРКІ

кроплі з даху
блішчаць за вакном,
трапляючы ў сьвятло,
як маланкі

бледна-рудая казурка
піша на шкле герогліфы
п’е выпараную вільгаць
разгладжвае вусы

павук чэша патыліцу
ды круціцца па восі,
а пара сьцелецца
                    між рамаў

мушкі прыліпаюць
крыламі да вільгаці
і чапляюцца ўсімі лапкамі,
калі падносіш
                    выратавальную галінку

## НОЧ І ДЗЕНЬ

вецер з поля
туман на поле

ноч і дзень
пульсуюць

сыгнальныя вогнішчы
восені
з-пад брыжоў ляндшафту
распаўсюджваюць арамат

памаранчавы смак паветра
казыча ноздры

*басаноч —*
*а дзень не*

*гу чыгун —*
*ціхісткі*

аброцьцю па плячох
гоняць узаемна

каго сустрэнеш на сьцежцы? —
суседа ці сьвятога,
ці анёла
здань сваяка ці бездань
сустрэнеш вецер
і лісьце асьвеціць шлях
дождж прыб’е пыл
бруд запомніць сьлед

шукай праўду ў зямлі
пад сьмецьцем думак
там, дзе няма плянаў ды сувязяў
няма
        ночы й дня

*“басаноч —*
*а дзень не*

*гу чыгун —*
*ціхісткі”*



калі сканаю,
адразу й не зразумею
*можа*
*ўжо?*



завіруха беліць поле
арктычнай сольлю
дрэва цёмнае й сьлізкае,
нібы рыбіна, —
раскос для нашае хаты

у бабулі вочы,
як у бульбы насеннай
са склепу



сон — гэта рызыка
не прачнуцца
фізыка пачуцьцяў

*   *   *   *   *

сплю,
трымаючы сябе за бараду
мой цень на тым беразе
пасьвіцца

## ЗА ТУМАНАМ

Час пытаньняў і час адказаў
за туманам бачыцца яснасьць:

што ні дзень, то ўпершыню
попел серадовы
чацьвер бясконца новы

жыцьцё — вясёлая рэч
і ўсё роўна,
колькі яшчэ

белага малака ці
чорнае гарбаты
*вып’ем, пане-браце!*

безьліч сноў
мноства стратаў
цяпер нас ніщто ня зломіць



няма сэнсу пераконваць

сузіраньне чужога вопыту
зьмяняе абставіны



вочы стаміліся
бачыць рэчы

адольваць мілі
нядолі ў вечнасьці
сэрца раніца
розуму вечар

— ня дзякуй
не прасі прабачэньня
ня вер



галавою тут,
нагамі ўпёрты ў неба
    я зазірнуў сюды,
    набраўшы паветра,
    быццам пад ваду,
паставіць рэкорд
знаходжаньня

# ГУЗАК

нячысьцікам не даспадобы,
калі я хаджу ў касьцёл:

то шыбіну каменем паб’юць,
то дзьверы рэзка адчыняць,
то пробку выкруцяць

а мне — нічога,
пасядзеў паўтары гадзіны
                                        са сьвечкай
на гітары патрэнькаў

які ясны ўвечары завулак!
як ціха ў цёмным пакоі
ды прасторна!
якая смачная гарбата бяз цукру!

прыехаў мужычок-электрык
з адвёрткай і саламянымі вусамі,
у вялікіх гумовых ботах
адно толькі брыля не хапае

з жартамі, кпінамі
ўкруціў пробку,
нічога за працу ня ўзяў,
а на яго загрыўку з-пад валасоў
здаровы гузак вылупіўся



яснае неба, ха**л**одны вецер

ты зрабіў бол**е**й, чым мог

Бог ра**т**уе перад тым, як

зьніч жывы, дакл**а**дна такі ж

вось на што сьні**ў**

## ПАТАНОК

…“Знойдзеш мэту — згубісься!” —
казаў прарок другі,
а значыць больш дасьведчаны

“Куды далей? Пане Божа,
няўжо я тут яшчэ патрэбны?” —
кленчыць вернік,
адчуваючы сябе патанком
    не дапірае, што сьмерць трэба заслужыць

## ПРАЕКЦЫЯ

пад вязамі
бяздонныя цені

кіслата пухірыцца
венчыкам на цемені

*хвечар ліґхтары*
Месяц зьмяняецца з боку ў бок,
на смак як цытрына

сок
арашае й напружвае
мазгавую цяглiцу

зіхотка-мяккая сутнасьць —
цяпер не сябе, а сьвет
успрымаеш як праекцыю

## ЭСПАНДЭР

нічога агульнага
між двума:

    адзін з халодным сэрцам
    будуе лядовыя палацы
    й гіне штовесну

    другі (у выглядзе старэчы)
    расклаў на вуліцы рэчы -
    стос кніг, імбрык бязь вечка,
    шапачку, эспандэр бяз ручкі…
    сам прытуліўся да сьцяны,
і сьнег нейкі крупчасты
пенапляставы сыплецца,
зьнікаючы ў асфальце



ад тое да гэтае Пасхі
мінула роўна два гады
дзе ты зараз?
хто ты?

для мяне ты —
па-ранейшаму тая,
што не адказвае
на званкі

**ω**

Велікодны касьцёл
штурмуе аблокі

сьвятло па мурох
                    праносіцца
прабіваюцца ветрыкі

пасхал трымае вернікаў
на шляху да амэгі



а сэрца ўжо
белае
сэрцу
цесна
ў грудзёх

і вожык схаваўся ў чэрапе

## HOMO

вецер казыча рэбры
зашрубоўвае ў зямлю

колькі б чаго ня ведаў,
застаесься homo

злое замольваеш
благое як цуд

выціскаеш зь сябе зьмеяў
перамагаеш цярпеньнем

заўсёды не адразу,
але назаўжды

## ГЗЫМС

тое, чым дыхаем,
пакрыў белым абрусам дождж
тое, што чуем,
зьмяшалася ў хвалі

ноччу грукае ў гзымс
той, хто ня сьпіць

## Ч/Б

дрэва ч/б
у глебе б/у
ніжэй
за 0

каляровае дрэва
здымае кажух
вільготнае дрэва
дыміць скрозь кару

гарачае дрэва,
як кроў у пальцах,
празрыстых на промнях,
як сьцяг б/ч/б

і дошка старая ў сьцяне
напрасьвет чырванее

# ЗМЕСТ

## ГАБІТАЦЫЯ



КАЛЫХАНКА (І) .......... 7
НАСУСТРАЧ .......... 8
ФРАГМЭНТЫ .......... 9
ГАСПАДЫНЯ .......... 10
АДЗІНАЕ .......... 11
ДЫК .......... 14
ЕЦІ .......... 15
«няма моцы думаць...» .......... 17
АБАGOOGLE .......... 18
ПАВОДЛЕ СНОЎ .......... 19
ЗАХЛЫН .......... 20
КАЛЫХАНКА (ІІ) .......... 21
АЎТАСПЫН .......... 22
ТУМАН І ПОЎНЯ .......... 23
БРУД .......... 24
ДЗЬВЕРЫ .......... 25
в. ЧЭРЦЫ .......... 26
«ноч перакуліла яву...» .......... 27
ДВУХКАЛЯРОВАЯ .......... 28
НЯМАЯ МАЛІТВА. ЦЁПЛАЯ ЗІМА .......... 29
ПАСЕЎ АЗІМЫХ У ЛАГОЙСКІМ РАЁНЕ .......... 31
НІГМ .......... 33
БОЛЕЙ .......... 34
«паветра вочы лашчыць...» .......... 35
«прыемная лёгкасьць у страўніку...» .......... 36

ДАФАРЭНЦЫЯ



ВІД ЗНУТРЫ. 08-03 ........ 39
«стома й слота...» ........ 40
З ПРАВАДНІЦАЙ ........ 41
МУРАШНІК ........ 43
«твой вобраз...» ........ 44
РАКІ ........ 45
ТАКІЯ ВЫНІКІ ........ 46
МІХЕЙ ........ 47
АДНО ........ 48
NON-STOP ........ 49
СОК ЗЯМЛІ ........ 50
«дзяды баяцца скразьнякоў...» ........ 51
«завулак на вузел жаночы завязаны...» ........ 52
ХОВАНКІ ........ 53
КЛОПАТ ........ 54
ПАСЬЛЯ ДАЖДЖУ ........ 55
ШНАРЫ ........ 56
СІТАЎКА ........ 57
«у галаве — табу...» ........ 58
р. СЬЛІЖАНКА ........ 59
ПРЫЕМНА ........ 60
«каханьне працуе...» ........ 61
НА ВЯЛІКІ ПОСТ ........ 62
ПАСАЖЫРЫ ........ 63

ГЗЫМС



ЧОРНАЯ СТРОНГА ........ 67
«дрэвы ў дровы...» ........ 68
«зямля яшчэ пахне чаборам...» ........ 69
КАЗУРКІ ........ 70

НОЧ І ДЗЕНЬ........................................................................ 71
«калі сканаю...»................................................................... 73
«завіруха беліць поле...»...................................................... 74
«сон — гэта рызыка...» ......................................................... 75
ЗА ТУМАНАМ...................................................................... 76
«няма сэнсу пераконваць...» ............................................... 77
«вочы стаміліся...»................................................................ 78
«галавою тут...»..................................................................... 79
ГУЗАК ....................................................................................80
«яснае неба, халодны вецер...»............................................81
ПАТАНОК............................................................................... 82
ПРАЕКЦЫЯ ............................................................................ 83
ЭСПАНДЭР ............................................................................ 84
«ад тое да гэтае Пасхі...» ...................................................... 85
ω........................................................................................... 86
а сэрца ўжо........................................................................... 87
НОМО ................................................................................... 88
ГЗЫМС ................................................................................. 89
Ч/Б........................................................................................90

Літаратурна-мастацкае выданне

**СЯМАШКА** Віктар

**ГАБІТАЦЫЯ**

Тры вершаваныя цыклі:
“Габітацыя”, “Дафарэнцыя”, “Гзымс”

Адказны за выпуск *Зміцер Вішнёў*
Рэдактар *Віктар Жыбуль*
Карэктар *Марыя Паўлоўская*
Дызайн *Яўгенія Багдановіч*
Вёрстка *Яўгенія Багдановіч*

На вокладцы выкарыстана карціна
мастака Віктара Сямашкі-старэйшага

Падпісана да друку 04.04.2013. Фармат 84×108 $^1/_{32}$.
Друк афсетны. Ум. друк. арк 5,0. Ул.-выд. арк. 0,6.
Наклад 300 асоб. Замова 2280.

Прыватнае выдавецкае ўнітарнае
прадпрыемства “Галіяфы”.
ЛИ №02330/0150300 ад 08.04.2008.
Вул. Брылеўская, 11-44, 220039, г. Мінск.
E-mail: vish@bk.ru.
www.by-books.org.

Друк ТДО “НоваПрынт”.
ЛП № 02330/0552786 ад 25.02.2009.
Вул. Геалагічная, 59-4-10, 220047, г. Мінск.

